# ПАГОНЯ

Чацвер
25 лютага 1999 г.
№ 15 (392)
Кошт 15000 руб.

## «Взялись за яйца - молоко пропало»!

**Заданне па вытворчасці таварнай прадукцыі і тавараў народнага спажывання Гарадзенскай вобласці поўнасцю правалена. Аб гэтым заявіў старшыня Гарадзенскага аблвыканкама Аляксандр Дубко падчас нарады кіраўнікоў органаў дзяржаўнага кіравання вобласці, якая адбылася днямі.**

Удзельнікі нарады абмеркавалі ход рэалізацыі асноўных накірункаў сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёну на 1996—2000 гг. і задачы па павышэнні адказнасці кіруючых кадраў у вырашэнні першачарговых праблемаў 1999 года. Было адзначана, што выкананне заданняў па вытворчасці таварнай прадукцыі ў першым месяцы бягучага года да студзеня мінулага склала 95 працэнтаў, тавараў народнага спажывання — 96 працэнтаў. Зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці дапусцілі такія гарады як Гродна, Ліда, а таксама Ваўкавыскі, Гарадзенскі, Навагрудскі, Ашмянскі, Шчучынскі, Дзятлаўскі раёны.

Паводле словаў А.Дубко, «узніклі сур'ёзныя праблемы і ў цяперашняй зімоўцы жывёлы», хаця ў цэлым па вобласці за студзень забяспечаны прырост па прадукцыйнасці дойнага статку на 5 кілаграмаў ад кожнай каровы і валавой вытворчасці малака на 3 працэнты. Аднак плануемага ўзроўню прыросту дасягнуць не ўдалося. З гэтай задачай справіліся толькі 5 раёнаў.

Вынікі працы прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў вобласці па шэрагу пазіцый у студзені 1999 года, паводле словаў А.Дубко, выклікаюць сур'ёзную трывогу і патрабуюць прыняцця на ўсіх узроўнях тэрміновых стабілізацыйных захадаў.

**Ася Куніцкая**

## Саветы без камуністаў не застануцца

**22 лютага завяршылася вылучэнне кандыдатаў у мясцовыя Саветы ўсіх узроўняў. У Гродзенскі гарадскі Савет за гэты час вылучана 127 кандыдатаў па 40 выбарчых акругах.**

Асноўная іх частка — прадстаўнікі працоўных калектываў (52 кандыдаты). Ад ініцыятыўных групаў вылучана 13 кандыдатаў, але не выключана, што іх будзе менш, бо 1 сакавіка ў гарвыканкаме адбудзецца праверка подпісных лістоў ад ініцыятыўных групаў. Сваіх прадстаўнікоў вылучылі 5 палітычных партыяў (52 кандыдаты): Патрыятычная партыя, КПБ, Партыя камуністаў Беларуская, ЛДП, Партыя народнай згоды, Славянскі Сабор «Белая Русь». Ад дэмакратычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў не вылучана аніводнага кандыдата. Яны байкатуюць выбары, аднак актыўна стараюцца ўплываць на іх ход.

У Гродне створана і прыступіла да працы агульнарэспубліканская надзвычайная камісія па грамадскім кантролю за выбарамі. Першае, чым займецца камісія, гэта праверыць, ці законныя вылучэнні ў чальцы выбарчых камісій на розных узроўнях. На пачатак сакавіка запланаваны семінар па лініі АБСЕ па падрыхтоўцы інструктароў-назіральнікаў за выбарамі, у якіх возьмуць удзел больш за 100 чалавек.

Палітычныя партыі і грамадскія арганізацыі апазіцыі не страчваюць надзеі, што маючыя адбыцца выбары будуць прызнаныя незаконнымі і магчымыя новыя, больш дэмакратычныя.

**Таццяна Дудко**

### НАДВОР'Е

**26 і 27 лютага** - воблачна з праясненнямі, часамі мокры снег, дажджы. Вецер заходні, паўднёва-заходні, 6-11 м/с. Тэмпература паветра ўначы 26 лютага -5...-10, удзень +1...-4. 27 лютага ўначы +1...-4, удзень 0...+5.

# Не магу здрадзіць хваёй крывіначчы

**Бяда прыходзіць не стукаючыся ў дзверы, не пытаецца, чакаюць яе тут ці не. Яна быццам правярае людзей на трываласьць, на чалавечнасьць. Баліць, калі ты хворы сам. Але калі хворае тваё дзіця, боль становіцца нясьцерпным...Што рабіць, каб боль не зрабіў цябе жорсткім, агрэсіўным, злым, пакрыўджаным на ўвесь сьвет?**

Валянціну Сячынскую ўпершыню я ўбачыла 8 лютага 1999 года на семінары, які ў Гродне ладзіў "Counterpart". Прыемная, уважлівая, разумная жанчына, якая радая падтрымаць размову, здольная падхапіць жарт. Заўважае і ўмее цаніць любы знак увагі ў яе адрас. Выказваецца без фанабэрыстасьці і празмернай настойлівасьці.

Адкрытасьць і дабрыня магічна прыцягваюць да Валі. Так цягне да блізкага чалавека, так цягне да маці. Але ў вачах маёй суразмоўцы відаць сум і боль...

Валянціна прыехала са Смаргоняў. Яна з'яўляецца старшынёй Асацыяцыі бацькоў дзяцей-інвалідаў "Агеньчык надзеі". Яе сын хворы на дзіцячы цэрэбральны параліч (ДЦП)

***-Валя, ці ведалі Вы, што такое ДЦП?***

-Не, не ведала. Чула нешта неканкрэтнае, што ёсьць хворыя дзеці. Але падрабязна стала ведаць толькі тады, калі ў мяне нарадзіўся сын і яму паставілі такі дыягназ.З гэтай праблемай я сутыкнулася крышачку болей як 4 гады таму. Заключэньне вынесьлі, калі яму было 8 месяцаў, хаця хворы мой сынок быў ужо пры нараджэньні, атрымаўшы родавую траўму. Дыягностыка не была праведзена своечасова, і толькі ў 8 месяцаў я стала ведаць пра гэтую бяду. Тады паўстала пытаньне, як жыць?

***-Скажыце, калі ласка, ці зьмяніліся Вы з нараджэньнем сына?***

-Так... Ён мяне моцна зьмяніў...

**Валя задумалася. Мабыць, яна ўспамінала тыя часы, калі было невыносна балюча і крыўдна: *"Чаму менавіта я? Навошта мне такое жыцьцё? Я самая няшчасная."* Не было нават з кім падзяліцца сваёй бядой. Толькі слёзы крыўды і адчаю. Але гэта быў ужо пройдзены этап.**

Я была іншай у тым сэнсе, што ў маім жыцьці не было такіх цяжкіх праблемаў. Калі і ўзьнікалі нейкія перашкоды, то яны хутка вырашаліся. А гэтая праблема вельмі важная і цяжкая. Яна прымушае мяне думаць, знаходзіць выйсьце, дапамагаць такім людзям, як сама. І ад гэтага атрымліваеш маральнае задавальненьне сабою. Лічыш сябе патрэбнай людзям. У нейкім плане самарэалізуешся. Гэта галоўнае. Таму што праца ўжо пакінута (а працавала Валя выхавацелем у дзіцячым садку. - С.Р.). Галоўнай сваёй справай я лічу працу ў Асацыяцыі, якую распачала разам з іншымі бацькамі.

***-Як Вы прыйшлі да ідэі стварэньня Асацыяцыі?***

-Каб выжыць, трэба было шукаць такіх маці, як сама, каб аб'ядняцца, каб ведаць свае праблемы, каб дапамагаць адзін аднаму, знаходзіць выйсьце з такой складанай сітуацыі.

Штуршком да стварэньня Асацыяцыі стаў семінар Беларускай Асацыяцыі бацькоў дзяцей-інвалідаў (БелАБДзІ), які называўся "Што будзе з табой, калі мяне не будзе". Мы былі туды запрошаныя. Гэта было ў лютым 1996 года. Я тады ўпершыню пачула пра БелАБДзІ, даведалася, што займаецца гэтая Асацыяцыя дзецьмі-інвалідамі. Прыехаўшы з гэтага семінару, мы падумалі, а чаму б і ў нашым горадзе не стварыць такую Асацыяцыю? Мы арганізавалі бацькоўскі сход і прынялі рашэньне аб стварэньні арганізацыі. Былі, канешне, сумневы "А ці патрэбна гэта, чым мы зможам дапамагчы адзін аднаму?"Але маленькія перамогі даюць стымул на наступныя справы.

***-Што Вы можаце адзначыць, як перамогі ў працы арганізацыі?***

-Па-першае, гэта тое, што мы змаглі атрымаць для дзетак гуманітарную дапамогу. Дзякуй вялікі "Карытасу". Па-другое, гэта арганізацыя ранішнікаў. А таксама тое, што хоць некалькі дзяцей з нашай Асацыяцыі маюць магчымасьць 1-2 разы на год аздаравіцца за мяжой (пуцёўкі прапануе БелАБДзІ), і яшчэ шмат маленькіх крокаў, якія падштурхоўваюцьісьці далей. Але трэба вучыцца, сустракацца з людзьмі на семінарах, абменьвацца думкамі. Нават для таго, каб не адчуваць сябе такімі закамплексаванымі. Мы, мамы, амаль усе закамплексаваныя.

Трэба працаваць, трэба жыць. Як у народзе кажуць, трэба жыць-як набяжыць. І шукаць выйсьце. Без амбіцый. Што я зраблю, калі знайду вінаватага ў тым, што мой сыночак, мая самая дарагая крывінка стаў інвалідам? Што гэта зьменіць? Усё роўна будуць нараджацца па нейкіх прычынах дзеці-інваліды. Трэба гэтую праблему вырашаць на дзяржаўным узроўні.

***-У Вашу Асацыяцыю ўваходзяць бацькі хворых дзяцей?***

-Так.

***-А ці ёсьць у Асацыяцыі людзі, якія не маюць хворых дзяцей і хочуць Вам дапамагчы?***

-Не, на жаль няма. Але мы хацелі б каб яны былі.

***-Ці маеце Вы спонсараў?***

-Вы ведаеце, Смаргонь не Менск і не Гродна. У нас мала рэнтабельных прадпрыемстваў. Але ўсё ж такі знаходзяцца людзі, якія не абыякавыя да нашай бяды. Гэта і камбікармовы і ліцейны заводы, мэблявая фабрыка, прыватныя крамы.

***-Яны Вам дапамагаюць грашыма ці яшчэ нейкім чынам?***

-Грашыма і прадуктамі. Прыкладам, калі мы праводзілі ранішнікі на дзень інваліда і на Новы год, то крамы"Алеся"і "Журавінка" выдаткавалі нам прадукты (цукеркі, садавіну, усё што можна было паставіць на салодкі стол). Канешне, вельмі прыемна, калі сустракаешся з такімі людзьмі, якія адгукаюцца і дапамагаюць. Мы за гэта ім вельмі ўдзячны!

***-Гадаваць у сям'і хворае дзіця і бачыць, што яму цяжка- гэта вялікі боль. Ці ёсьць такое месца, дзе гэты боль суцішаецца? Ці ходзіце Вы ў царкву?***



Валянціна Сячынская

-Так, я хаджу ў касьцёл, прыслухоўваюся да словаў ксяндза, што гэта твой крыж і трэба яго несьці да канца. Таксама вельмі дапамагае тое, што ў мяне шмат сяброў і не толькі па няшчасьцю.

***-Ці прыходзяць да Вас госьці?***

-Так, прыходзяць. І гасцям я радая, як і мае дзеці.(У Валі ёсьць яшчэ старэйшая дачка Воленька. - С.Р.). Прыходзяць людзі, якія ведаюць, што ў мяне хворае дзіця і гэта ўспрымаецца нармальна. Я не люблю, калі пачынаюць мяне шкадаваць, казаць: "А як ты вытрымліваеш? Я б так не змагла." Не трэба шкадаваць, трэба падтрымліваць і разумець.

***-Вы вазілі свайго сына ў Цэнтр рэабілітацыі ў Гродне. Ці заўважылі нейкія зьмены?***

-Зьмены ў тым плане, што ён больш адаптаваўся да чужых людзей, перастаў іх баяцца. Маторыка рук развілася. Праўда, вельмі баяўся ўколаў, і калі я пыталася, ці паедзеш яшчэ ў Гродна, то казаў, што не паедзе.

***-Любое дзіця, якое прывязана да мамы, таты ўсё роўна сумуе па родных.***

-Я хачу сказаць, як бы добра ні было ў дзіцячых дамах, як бы многа дзяржава на гэта не выдаткоўвала грошай, але тое, што дае сям'я - нішто не можа замяніць.

***-Ці змаглі б Вы аддаць свайго сына ў інтэрнат, калі б склаліся абставіны?***

-У наш час адмаўляюцца нават ад здаровых дзетак, але ж як маці можа здрадзіць сваёй крывіначчы, яна ж насіла яго пад сэрцам?! Я лічу, што гэта ненармальная сітуацыя, калі маці кідае сваё дзіця. Нават птушка аберагае сваё птушаня, якое яно б ні было, ці кульгавае, ці благое, а чалавек павінен прыклад паказваць. Гэта не геройства - гэта адносіны.Гэта самае галоўнае. Якая розніца, хворы ён ці здаровы - гэта дзіця, гэта чалавек. Усё роўна, што сказаць бацькам: "Аддайце сваё здаровае дзіця. Ці аддадуць?". Я маю шчасьце, што маю гэтае дзіця, таму што ён шмат чаму мяне навучыў, шмат чаго даў.

***-Валя, скажыце, якая Ваша самая запаветная мара?***

-Каб не было хворых дзетак. Калі ж здарыцца такое няшчасьце ў сям'і, то каб маці была ўпэўнена, што дзяржава паклапоціцца пра яе дзіця. Каб дзеці-інваліды мелі магчымасць вучыцца, атрымаць прафесію і быць патрэбнымі ў жыцці. Каб мамы, як бы цяжка ні было, ніколі не адмаўляліся ад сваіх дзетак, каб яны жылі ў сям'і з бацькамі. Няхай усе будуць здаровыя.

**Валя плача. Боль не зрабіў яе жорсткай, замкнутай. Кожнае яе слова ўзрушвае, кранае да глыбіні душы. І хочацца ад шчырага сэрца пашкадаваць і пастарацца дапамагчы, каб меней на сьвеце было такіх мамаў і татаў, якія б адчувалі сябе адзінокімі ў сваёй бядзе. Хопіць хаваць свае пачуцці і думаць, што слабасьць - гэта сорамна.**

**Валя, дай Бог Вам здароўя, сілаў, вытрымкі, посьпехаў. І каб Вашая мара збылася. Дзякуй за добрыя і шчырыя словы!**

**Сьвятлана Руднік,**
**Каардынатар праекта "Адрасы бяды"**
**Школы маладога журналіста**

## Разумных толькі сем працэнтаў

**23 лютага завяршыўся перапіс насельніцтва.**

Паводле апошніх дадзеных, па Гарадзенскай вобласці прайшлі перапіс 93 працэнты насельніцтва, з іх каля 3 працэнтаў запоўнілі анкеты непасрэдна на перапісных участках. Свае карэктывы ўнесла эпідэмія грыпу. Больш за 400 падлікоўцаў гэтымі днямі захварэлі. Аднак ім своечасова была знойдзена замена.

Цяпер інструктары-кантралёры праходзяць па перапісных участках, дзе асобна правяраюць адпаведнасць дадзеных і адсутнасць парушэнняў.

**Таццяна Дудко**



ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# Сучасныя дыктатуры рыхтуюцца прафесіяналамі

**Таталітарны рэнесанс, які адбываецца ў нашай краіне, мае свае карані. Гэта эканамічная недзеяздольнасць беларускага ўрада, культурная непаўнавартасць беларускай нацыі, палітычная недаразвітасць грамадскай супольнасці, мэтанакіраваная падрыўная работа супраць дэмакратыі, незалежнасці ды іншых беларускіх каштоўнасцяў. Мы спакваля ператварыліся ў закрытае грамадства. Пра гэты феномен размова нашага карэспандэнта з прафесарам Аляксандрам Патупам, палітолагам, кіраўніком Інстытута даследавання будучыні.**

- Грамадства не разлічвала на аднаўленне таталітарызму, напачатку 90-х здавалася, што з распадам камуністычнай імперыі перашкодаў свабодзе не будзе. Аднак амаль ва ўсіх новых краінах пасля кароткай лібералізацыі пачаўся ўціск. Яго не чакалі.

*- Была эйфарыя, рамантычныя мары і чаканні...*

- І прайгралі ўсё паміж буфетам, мікрафонам і прыбіральняй. Сучасныя дыктатуры падрыхтоўваюцца прафесійна, у гэтым удзельнічаюць спецслужбы, гэта зусім не гульні ў палітыку дылетантаў-дэмакратаў.

Цяпер нас крок за крокам вяртаюць у савецкі лад. Прэзідэнцкая ўлада замяніла сабой ЦК КПСС. Яна стала над дзяржавай, і больш не з'яўляецца дзяржаўным органам. Усе рашэнні прымаюцца замест дзяржавы, за выкананне сваіх указанняў нясе адказнасць урад, выканаўцы на месцах. Прэзідэнцкая ўлада самаўхілілася ад адказнасці за палітыку.

У Беларусі сітуацыя выяўляе амаль акадэмічны малюнак. Тут методыку таталітарызацыі можна разглядаць і вывучаць у чыстым выглядзе. Падобныя працэсы ідуць у шматлікіх рэгіёнах Расіі, іх ужо каля сарака.

Для змагання з дыктатурай перш за ўсё патрэбна моцная аналітыка. Прычым, супраціўляцца трэба заранёў, а не пасля чарговых наступаў дыктатуры. Паколькі дыктатура - гэта выклік усяму свету, то патрэбна міжнародная салідарнасць. Адзіны спосаб спыніць дыктатуру - прымусіць яе несці страты. Ніякія маральныя, агульначалавечыя, гуманітарныя аргументы дыктатура не ўспрымае.

*- Вось дэмакраты і пачалі самастойную атаку, прызначылі выбары прэзідэнта. Якія сілы стаяць за гэтымі выбарамі?*

- Тыя, якія блізкія да Вярхоўнага Савета. На маю думку, Вярхоўны Савет павінен быў даручыць камісіі правесці выбары і зафіксаваць немагчымасць іх правядзення. Але існуюць праблемы з рэйтынгам у некаторых палітыкаў... Найгоршы вынік будзе тады, калі прэзідэнт увогуле праігнаруе гэтыя выбары. На жаль, легітымная ўлада бяссільная.

*- А ў прэзідэнта хопіць сілаў, каб далучыць нас да Расіі?*

- У Расіі няма грошай, каб далучаць Беларусь. Расія просіць фінансавыя рэсурсы на Захадзе, і не дзеля таго, каб патраціць іх на падобныя мэты.

**Каб супрацьстаяць прафесіяналам, якія занятыя рэстаўрацыяй таталітарызму ды імперыі, неабходна, акрамя аналітычнай працы і выпрацоўкі эфектыўнай палітыкі, згуртаванне ўсіх здаровых сілаў беларускага грамадства, якія стаяць на грунце непахіснасці прынцыпаў дэмакратыі, законнасці, рынкавых рэформаў. Змагацца можна паасобку, перамагчы - толькі разам.**

**Гутарыў Сяргей Самасей**

# Размова па сутнасці!

**Радыёперадача з аналагічнай назвай прагучала на Беларусі 15 студзеня гэтага года. Навуковец-філосаф, прафесар Л.Е.Крыштаповіч разважаў перад мікрафонам пра дзейнасць апазіцыі і яе ролю ў развіцці нашага грамадства.**

Для надання дзейству дэмакратычнасці, бачнасці ўсенароднага ўдзелу, вядучы некалькі разоў ўзгадваў тэлефон 284-69-35. Тэлефануйце, выказвайце сваё меркаванне. І людзі тэлефанавалі, каб сказаць публічным вяшчальнікам тое, што набалела. Затэлефанаваў і я. Хацеў выказаць карэспандэнту, які вёў перадачу, наступнае: «Навошта хлусіце! Незалежная прэса ж часта практыкуе публікацыю супрацьлеглых меркаванняў па тых пытаннях, што выносяцца на абмеркаванне. Можа, Вы заўважылі нейкія канкрэтныя недахопы, то проста скажыце пра іх. Навошта ж адмаўляць відавочнае?»

Да Льва Яўстаф`евіча ў мяне было значна больш пытанняў і прэтэнзіяў. Рэзаў вуха стыль, якім карыстаўся ў размове прафесар. Здавалася, каля мікрафона - не навуковец, а стомлены вулічны дворнік.

Гэта ж трэба, да чаго дадумаўся! Цішун Вам на язык, прафесар. Не хапала, каб яшчэ і нас пачалі бамбіць!

Леў Яўстаф`евіч, адкуль у Вас узнікла думка, што апазіцыя хоча весці Беларусь па балтыйскаму сцэнару? Даўся Вам гэты няшчасны Пазьняк! Ужо даўно ў Амерыцы ці яшчэ недзе, а Вы ніяк не можаце на яго забыцца. Менталітэт беларусаў і прыбалтаў істотна адрозніваецца, і нашы шляхі будуць адрознівацца таксама. Мы імкнемся не ў Балтыю, мы імкнемся ў цывілізаваную Еўропу, і калі паважаны прафесар у гэтым не бачыць розніцы, то я раю больш не абмяркоўваць падобныя тэмы, таму што ў Вас праблемы з геаграфіяй.

Яшчэ хацеў запытацца, колькі ж Вам увогуле плацяць, спадар прафесар, калі Вас задавальняе тое, як за Беларусь гарой стаіць прэзідэнт Лукашэнка?

Я доўга націскаў патрэбныя тэлефонныя кнопкі і, на шчасце, мне пашанцавала! Замест звыклых кароткіх гудкоў пачуў зумер сувязі з абанентам, а потым прыемны жаночы голас: «Пашкоджана абаненцкая лінія... Пашкоджана абаненцкая лінія...»

Гэта адбылося прыкладна ў 12.47. А перадача працягвалася. У студыю тэлефанавалі радыёслухачы. Нейкая жанчына адчайна ганіла бэнэфаўскіх фашыстаў, а радыёкарэспандэнт цярпліва слухаў яе. Падумалася: як жа яны размаўляюць, калі лінія пашкоджана?

Не трэба нас дурыць, спадары махляры! Мы - таксама тэхнары і ведаем, у якіх выпадках станцыя выдае падобны сігнал. Дарэчы, лінія перастала быць пашкоджанай праз некалькі хвілін пасля заканчэння перадачы. Прызнайцеся, што ўсіх тых, хто вам тэлефанаваў, вы запісалі заранёў. А каб падчас перадачы не патэлефанавалі і не выкрылі Ваш падман, вывелі са строю тэлефон.

Усё ж, калі паважаны прафесар захоча даведацца сапраўднае меркаванне грамадзянаў пра ўладу прэзідэнта і апазіцыю, рэкамендую патэлефанаваць (на нумар, дзе шасцёрка і тройка заменены месцамі) ветэрану Барысу Васільевічу Новікаву. Карэспандэнты, якія вялі перадачу, ці то самі памыляюцца, называючы кантактны тэлефон, ці то адбываецца блытаніна з-за таропкага і незразумелага вымаўлення, але калі пачынаецца падобная перадача, у гэтай кватэры стаіць такі тэлефонны бедлам - сапраўднае народнае волявыяўленне. Варта папрасіць прабачэння ў ветэрана за гэты тэлефонны бум і, наогул, памяніць яму нумар тэлефона на больш спакойны.

Барыс Васільевіч пацвердзіць, што тэлефануюць да яго, у асноўным, каб выказаць наконт улады. Ён ужо прызвычаіўся да гэтага і сустракае тых, хто яму тэлефануе, фразай: «Будзеце ўладу лаяць?». Я сам тэлефанаваў і чуў гэта.

На заканчэнне паведамляю, што прымаю прапанову ўступіць у дыскусію па тых пытаннях, што тычацца адносінаў да ўлады і апазіцыі. Прымаю - пры ўмове, што яна, сапраўды, будзе праходзіць у прамым эфіры, і майму прадстаўніку будзе прадастаўлена магчымасць гэта кантраляваць. Тэлефон і адрас - у рэдакцыі газеты.

**Мікалай Вязьмін, інжынер, г.Менск**

# Усім - па заслугах!

**У снежні мінулага года польскі Сейм пераадолеў вета прэзідэнта Аляксандра Квасьнеўскага на закон аб заснаванні Інстытута Нацыянальнай памяці.**

Гэтая ўстанова будзе ўтворана для нагляду за адкрыццём персанальных дасье, заведзеных у часы сацыялізму польскімі спецслужбамі на апазіцыйна настроеных палітыкаў, інтэлігенцыю, рабочых і г.д. Кіруючая кааліцыя ў Сейме, многія дысідэнты былі абураныя тым, што былы камуніст А.Квасьнеўскі заблакаваў уступленне ў сілу закона, паводле якога любы грамадзянін Польшчы можа азнаёміцца са сваім дасье (абмежаванні тычацца выпадкаў, калі дасье заведзенае на сапраўдных злачынцаў). Адзін з палітыкаў назваў Квасьнеўскага не прэзідэнтам усіх палякаў, а прэзідэнтам усіх стукачоў. Прэзідэнту давядзецца саступіць.

У хуткім часе Варшаўскі Апеляцыйны суд пачне праверку дэкларацыяў, пададзеных прыкладна 23 тысячамі самых значных у краіне службовых асобаў. У дэкларацыях яны павінны на падставе закона 1997 года аб люстрацыях паведаміць пра сваё супрацоўніцтва з камуністычнымі спецслужбамі. Асобы, якія дапамагалі змагацца з польскімі дэмакратамі і патрыётамі, не маюць права займаць кіруючыя пасады ў дзяржапараце, СМІ, бізнесе.

**Б.Кашталян**

## Шыдлоўскі на свабодзе!

**23 лютага ў сувязі з амністыяй з калоніі вызвалены актывіст «Маладога Фронту» Аляксей Шыдлоўскі (тэрмін яго зняволення заканчваўся 25 лютага). Паводле ягоных словаў, амніставаны ён быў нягледзячы на тое, што напісаў некалькі заяў з адмовай аб прымяненні да сябе амністыі.**

Ахова калоніі сілай вытурыла Шыдлоўскага за межы УЖ 15/1, размешчанай на вуліцы Кальварыйскай у Менску. Як адзначыў Аляксей Шыдлоўскі, за паўтара года турэмнага зняволення ён не ўчыніў аніводнага парушэння рэжыму. Тым не менш, яго рэгулярна пазбаўлялі належных доўгіх спатканняў, перадачаў і г.д.

Шыдлоўскі мае намер абскардзіць у судзе рашэнне аб сваёй амністыі і лічыць яго незаконным. На ягоную думку, улады выкарысталі амністыю, каб пазбегнуць акцыі пратэсту, якую планавалі правесці каля сценаў УЖ 15/1 актывісты «Маладога Фронту» 25 лютага. Тым не менш, Шыдлоўскі заявіў, што акцыя адбудзецца з ягоным удзелам.

Гаворачы аб бліжэйшых перспектывах, А.Шыдлоўскі сказаў, што мае намер актыўна займацца палітычнай дзейнасцю, паколькі абраны намеснікам старшыні «Маладога Фронту», і прадоўжыць вучобу ў Беларусі.

## Менгарвыканкам у саюзніках фашыстаў?

**Арганізатары антыфашысцкай акцыі, правядзенне якой прызначана на 27 лютага, абвінавацілі кіраўніцтва Менгарвыканкама і гарадской міліцыі ў стварэнні напружанасці вакол дадзенай падзеі.**

Пра гэта было заяўлена ў штабкватэры Свабоднага прафсаюза беларускага, дзе 23 лютага адбылася прэс-канферэнцыя арганізатараў акцыі, каардынатара Хартыі-97 Дзмітрыя Бандарэнкі, намесніка старшыні Беларускага Хельсінкскага камітэта Валерыя Косткі, кіраўніка праваабарончага камітэта «Вясна-96» Алеся Бяляцкага. Яны паведамілі журналістам, што на пасяджэнні кіраўніцтва гарвыканкама атрымана згода на правядзенне шэсця і мітынга пад лозунгамі «Не - фашызму на беларускай зямлі. Не - рускаму фашызму». Аднак улады не дазволілі правесці шэсце па праезнай частцы праспекту Скарыны, а мітынг перанеслі са скверу Я.Купалы на плошчу Парыжскай камуны.

Арганізатары заявілі пратэст у сувязі з дзеяннямі сталічных уладаў. Да ўдзелу ў акцыі запрошаныя прадстаўнікі розных нацыянальных супольнасцяў, якія жывуць на Беларусі — палякаў, яўрэяў, татар. Шматтысячная калона дэманстрантаў не зможа павольна прайсці па тратуарах і, магчыма, будзе вымушана выйсці на праезную частку, што дасць падставу ўладам абвінаваціць арганізатараў акцыі ў парушэннях, заявілі ўдзельнікі прэс-канферэнцыі. Арганізатары антыфашысцкага маршу лічаць, што дзейнасць прафашысцкіх арганізацыяў накшталт РНЕ не была бы магчымай на Беларусі без пэўнага спрыяння ўладаў, якія прадпрымаюць спробы скарыстаць «Русское национальное единство» ў барацьбе з апазіцыяй.

**Генадзь Барбарыч**

## Віцебскаму пракурору век волі не відаць!

**Віцебская рада Беларускага Народнага Фронта «Выбар» папярэдзіла пракурора вобласці Мікалая Шахметава аб «незалежным судзе», перад якім «прадстануць» асобы, вінаватыя ў парушэннях міжнародных прававых актаў і законаў Беларусі.**

У адкрытым лісце, які «Выбар» накіраваў на імя пракурора, узгадваюцца не дайшоўшыя да прызначэння скаргі арыштаванага лідара гэтай арганізацыі Уладзіміра Плешчанкі. Падазроны па справе аб дэмантажы віцебскага помніка расійскаму генералісімусу Сувораву, ён шосты месяц утрымліваецца ў камеры следчага ізалятара. Пры гэтым ён неаднаразова звяртаўся ў пракуратуру і суд. Аўтары ліста лічаць, што супрацоўнікі праваахоўных органаў, звязаныя са справай Плешчанкі, не выконваюць Кодэкс паводзінаў адказных асобаў па падтрыманні прававой абароны, парушаюць Мінімальныя стандартныя правілы абыходжання са зняволенымі і шэраг іншых прававых актаў ААН.

«Мы папярэджваем, што калі ў дачыненні Уладзіміра Плешчанкі, а таксама іншых затрыманых і арыштаваных (а такія факты нам вядомыя) будуць парушаны міжнародныя прававыя акты і законы Рэспублікі Беларусь, вінаватыя ў гэтым адказныя асобы ў будучым прадстануць перад незалежным судом», — заключаюць аўтары ліста на імя пракурора.

**Леў Каменскі**

## Эфэмам - па дыктатуры!

Прыкладна ў красавіку-траўні плане распачаць вяшчанне радыёстанцыя «Балтыйская хваля». Яе мэта - інфармаваць грамадзянаў Беларусі пра падзеі ў свеце і ў нашай краіне. Перадачы будуць рыхтаваць і весці беларускія журналісты. Самае прыемнае тое, што перадачы плануецца весці на частотах FM, найбольш папулярных сярод беларускіх радыёслухачоў.

## Журналістам няма чаго баяцца?

**17 лютага ў Менску адбыўся «круглы стол», арганізатарам якога выступіў беларускі ПЭН-цэнтр.**

Пісьменнікі і журналісты абмяркоўвалі праблему абароны свабоды слова ў Беларусі. Госці з Чэхіі, Літвы, Польшчы, Латвіі і Украіны выслухалі калегаў, а таксама распавялі пра свае праблемы. Беларусам было цікава даведацца, што іхнія цяжкасці ў тым, што ў гэтых краінах ніхто не абмяжоўвае свабоду слова, і часам прэса закранае гонар і годнасць сумленных людзей. Прадстаўнік Украіны распавёў пра іншы бок праблемы свабоды слова - пакупку сродкаў масавай інфармацыі карпарацыямі і рэгіянальнымі кланамі.

Старшыня беларускай Асацыяцыі журналістаў Жана Літвіна паведаміла, што назіральнікі з місіі АБСЕ падрыхтавалі агляд стану выканання законаў, якія гарантуюць права на атрыманне і распаўсюджванне інфармацыі. У аглядзе сказана, што ў Беларусі «свабода слова пераважае». На наш погляд, такое сцвярджэнне не адпавядае рэчаіснасці. Цікава, што аўтары дакумента сцвярджаюць таксама, што пакуль у Беларусі «свабоды слова без страху няма». Чаго ж тады баяцца журналісты, хацелася б спытаць міжнародных «экспертаў»?

**Сяргей Самасей**

# Марнатраўства

**Да чаго жвавыя ў нас кіраўнікі дзяржавы! Ні хвіліны без справы, без руху, без разгляду і абмеркавання, без заслухоўвання і кантролю. І ўсё адпаведна плану, паводле графіка, пра які можна даведацца з дзяржаўных газетаў.**

Не паспеў прэзідэнт «адарваць ногі і адкруціць галовы» гаспадарчаму актыву па выніках дзейнасці ў мінулым годзе, як паімчаў у Рэспубліку Комі, а потым у Мардовію каваць сяброўскія сувязі з брацкімі славянскімі народамі. Па вяртанні з галавой улез у сельскагаспадарчыя праблемы Меншчыны - вучыў, як і чым карміць жывёлу, дзе рамантаваць трактары, як рыхтавацца да веснавой сяўбы і нават, як шэсць месяцаў трываць нішчымніцу, бо ўвосень надыдзе назлічоны дабрабыт.

Які няўрымслівы наш прэм'ер-міністр, дарма што сівы! Усё засядае, праводзіць нарады, падбівае вынікі, пасля едзе ўглыб краіны, гамоніць з народам, турбуецца за яго забяспечанне хлебам. Днямі наведаў Віцебшчыну, наракаў вертыкалі і абласным дэпутатам за няўбраны ўраджай, нястачу кармоў, нізкую якасць прадукцыі, перабоі ў гандлі таварамі першай неабходнасці, абураўся высокай інфляцыяй і зноўку вучыў, настаўляў.

Не спыняюць працы дэпутаты-палатнікі, абмяркоўваюць і прымаюць законы, заявы, пратэсты, узносяць послесі беларускай дыпламатыі і паграджаюць агрэсарам-НАТОўцам, рыхтуюць вясельную цырымонію для шлюбу Беларусі з Расіяй. Канстытуцыйны суд стаіць на варце законнасці, адзначае не штогадовае ўзмацненне. Сілавыя структуры пры каардынуючай ролі пракуратуры, пасляхова змагаюцца са злачыннасцю і апазіцыяй, сочаць, падслухоўваюць і падглядаюць за разнастайнымі апартуністамі, затрымліваюць, абшукваюць, арыштоўваюць, судзяць і саджаюць незадаволеных.

Сродкі масавай інфармацыі паведамляюць пра абласныя і раённыя сесіі дэпутацкіх Саветаў, пра пасяджэнні адміністрацый раёнаў, аб працы выбарчых камісій, пра справаздачы, семінары і нарады перадавікоў, пра грамадскія ініцыятывы ветэранаў і маладых патрыётаў. Круціцца чыноўны люд, мітусіцца, кантралюе, атэстуе, правярае, карае і заахвочвае, папярэджвае і рэкамендуе.

Усе маюць справу, чыны і аклады. Усё зробленае без маруднасці выдаецца ў тэле- і радыёэфір, у газеты, разносіцца штатнымі палітрукамі і няштатнымі агітатарамі, а таксама сакрэтнымі стукачамі ў курылках і чэргах. І так ужо без малога пяць гадоў.

Вынікі гэтага неўтаймаванага энтузіязму выдатна бачныя на паліцах і цэтліках магазінаў, у ведамасцях на заробак, у балансавых справаздачах прадпрыемстваў і ў банкаўскіх картатэках калгасаў. Уся гэтая грувасткая машына дзяржаўнай ўлады пяць гадоў скача ўпустую, як тая вавёрка ў коле. Сцерлася мяжа паміж дзейнасцю і яе імітацыяй, паміж рэальнасцю і фантазіяй, паміж здаровым сэнсам і хваравітай раздвоенасцю свядомасці. Каэфіцыент карыснасці ўлады блізкі да нуля. Велізарная энергія вылятае проста ў паветра, у нікуды.

Камуністы 70 гадоў займаліся тым жа - імкнуліся дасягнуць утапічных, казачных мэтаў. Яны абдурвалі народ, арганізоўвалі яго, стаханілі і натхнялі на працоўныя подзвігі, стваралі без Бога рай на зямлі, перавыхоўвалі капіталістычныя перажыткі, будавалі і перабудоўвалі... Цяпер гэтым пустым заняткам, толькі ў горшым выкананні, захапілася суверэнная беларуская ўлада, быццам вырашыла наўмысна выціснуць з грамадства апошнія інтэлектуальна-валявыя рэзервы.

Скачуць, скачуць па краіне нашы слугі народа...

**Б.Кашталян**

# Загадкавыя папярэджанні

**22 лютага мяне выклікалі ў пракуратуру Ленінскага раёна г. Гродна для ўручэння афіцыйнага папярэджання.**

З тэксту папярэджання вынікае, што пракурор не дазваляе мне выконваць рашэнні Цэнтральнай выбарчай камісіі па правядзенню выбараў прэзідэнта. Але дазвольце!!! Закон не забараняе мне гэтага рабіць. Няма ў нашай Канстытуцыі ці ў Законах абмежавання права чалавека выконваць рашэнне якіх-небудзь калегіяльных арганаў. Мая справа - хачу - выконваю, хачу - не.

Восьі у папярэджанні адсутнічаюць спасылкі на норму закона, якую я парушаю, выконваючы рашэнні Цэнтрвыбаркама.

Заканчваецца ж дадзенае папярэджанне наогул арыгінальна: «...Вы будзеце прыцягнуты да ўстаноўленай заканадаўствам адказнасці». Якой адказнасці? Я цэлую ноч шукаў норму закона, якая прадугледжвала б адказнасць за выкананне рашэнняў (нават незаконных) Цэнтрвыбаркама, і...не знайшоў.

З майго пункту гледжання, калі пракурор лічыць, што я зрабіў штосьці не так, то ён павінен, як мінімум, паказаць, якую канкрэтна норму закона парушыў і па якіх законах прадугледжана адпаведная адказнасць.

Тым больш, нават у лукашэнкаўскай Канстытуцыі няма прамых заборонаў на правядзенне выбараў прэзідэнта ў інакшым парадку, калі ўлады адмаўляюць свайму народу ў праве выбару кіраўніка дзяржавы. Лічу, што гэта маё права: удзельнічаць у выбарах ці не, а вось ці законныя яны - будзе вырашаць народ. Нічога страшнага ў тым няма, калі ў краіне будзе адзін народны прэзідэнт і адзін самазванец.

Хто ёсць хто - разбяруцца людзі.

Пікантнасць сітуацыі заключаецца ў тым, што пракурор сам выйшаў за межы прававога поля. Адпаведна Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (любой рэдакцыі), забараняецца ўскладаць на грамадзян абавязкі, не прадугледжаныя Канстытуцыяй ці Законамі Рэспублікі Беларусь. Сваім жа папярэджаннем пракурор ускладае на мяне абавязкі па невыкананню Рашэнняў калегіяльнага, рэальна дзейнічаючага, міжнародна прызнанага органа. Поўны абсурд.

Канстытуцыя пішацца для ўсіх. І калі ўлада дазваляе сабе сотні раз беспакарана парушаць Канстытуцыю, то ці абавязаны народ яе выконваць? Бо гэтая Канстытуцыя «мёртвая».

**Валерый Леванеўскі**

# Чыгунка дае дабро

**Чыгуначнае ведамства Рэспублікі Беларусь шырока прадастаўляе льготы шэрагу катэгорый насельніцтва нашай дзяржавы. Не забывае яно і цяперашніх нашых прэзідэнцкіх заканатворцаў.**

На чыгуначных вакзалах Беларусі з'явіліся абвесткі, што дэпутаты Палаты прадстаўнікоў і Нацыянальнага сходу ды яшчэ некаторыя прадстаўнікі цяперашняй улады могуць набываць квіткі на праезд без чаргі.

Простыя людзі чытаюць тыя абвесткі ды гадаюць, дзе б гэта можна было пабачыць тых дэпутатаў ды сенатараў, што карыстаюцца чыгункай.

**Язэп Палубятка**

# За адмену смяротнага пакарання

**Літоўскі парламент прыняў закон аб скасаванні смяротнага пакарання і адначасова зацвердзіў чарговую амністыю, паводле якой на свабоду выйдзе каля 2000 зняволеных. Смяротная кара была адменена дэпутатамі ў колькасці 76 чалавек. Супраць галасавалі тры парламентарыя. Дзевяць асуджаных да пазбаўлення жыцця будуць адбываць пажыццёвае зняволенне.**

Тым часам, Латвія прыняла новы крымінальны кодэкс, які ўступае ў сілу ў красавіку. У кодэксе прадугледжана ў якасці пакарання таксама смяротная кара. Праўда, яшчэ ў 1996 годзе прэзідэнт Латвіі ўвёў Мараторый на пакаранне смерцю. У студзені парламенцкая камісія па правах чалавека большасцю галасоў (6 да 2) рэкамендавала ратыфікаваць шосты пратакол Еўрапейскай канвенцыі па правах чалавека, якая заклікае да адмены смяротнай кары. Аднак, ратыфікацыя не пройдзе лёгка. Як прагназуецца, у грамадстве вельмі моцныя пазіцыі прыхільнікаў пакарання смерцю.

**Сяргей Самасей**

# Весткі з Віцебшчыны

**На гэтым тыдні завяршылася вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў Віцебшчыны.**

Кампанія па вылучэнні прэтэндэнтаў на дэпутацтва актыўна асвятляецца ўсімі дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі. Аднак, відаць, ужо няма колішняга вялікага жадання многіх грамадзянаў стаць дэпутатамі. Давер да мясцовай прадстаўнічай улады невялікі. Апазіцыйныя партыі і рухі праігнаравалі выбары па недэмакратычнаму закону. Таму вылучэнне праходзіць марудна. На чатыры тысячы дэпутацкіх месцаў розных узроўняў, паводле афіцыйных дадзеных на 12 лютага, вылучыліся толькі тры тысячы чалавек. Асноўную масу вылучэнцаў складаюць прадстаўнікі працоўных калектываў. Зразумела, у апошнія дні сітуацыя можа істотна змяніцца, але можна спрагназаваць, што ў многіх акругах выбары будуць безальтэрнатыўнымі.

***

**Складанае становішча ў сельскай гаспадарцы і харчовай прамысловасці змусіла Віцебскі абласны выканаўчы камітэт пайсці на дадатковыя захады дзеля пераадолення крызісу.**

Днямі абвешчана пра стварэнне ў рэгіёне яшчэ аднаго фонду. Ён павінен стабілізаваць вытворчасць сельгаспрадукцыі і харчавання. Сродкі ў фонд мусяць пералічваць усе юрыдычныя асобы незалежна ад формы ўласнасці. Яны будуць уносіць грошы ў памеры аднаго працэнта выручкі ад рэалізацыі прадукцыі або ажыццяўлення паслуг ці работ.

Раней, адразу пасля Новага года, паведамлялася пра ўтварэнне фонду, які мог бы палепшыць сітуацыю з шэрагам імпартных харчовых тавараў і лекаў. На жаль, за гэты час паляпшэння на спажывецкім рынку не адбылося.

***

**На Віцебшчыне працягваецца эпідэмія грыпу**

Паводле інфармацыі абласнога Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі ў гарадах рэгіёна на грып і вострыя рэспіраторныя вірусныя інфекцыі перахварэла звыш 31 тысячы чалавек. Палова з іх - віцябляне. У Оршы хворых было больш за шэсць тысяч, у Наваполацку - болей як пяць тысяч. Дзвесце сорак чалавек шпіталізавана.

**Юрась Сцяпанаў, «Контур-INFO»**




## 25 лютага



**40 гадоў** таму (1959 г.) памёр **Клаўдзі Дуж-Душэўскі**, грамадска-палітычны актывіст, дзеяч БНР. Нарадзіўся ў 1891 годзе ў мястэчку Глыбокае. Вучыўся ў Віленскім рэальным вучылішчы, Каўнаскім Літоўскім універсітэце, Пецярбургскім горным інстытуце. Быў актывістам Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў у Пецярбургу, удзельнічаў у выданні часопіса «Раніца». Паводле ўласнага сцверджання, менавіта Душэўскі стварыў эскіз бел-чырвона-белага сцягу. У 1917 годзе ўступіў у Беларускую сацыялістычную грамаду, уваходзіў у яе кіраўнічыя органы. У сакавіку 1917 года быў удзельнікам з'езду беларускіх нацыянальных арганізацыяў у Менску. Пасля распаду БСГ (лета 1918 г.) прыналежаў да Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. З красавіка 1919 года ў Вільні стаў сябрам Беларускага нацыянальнага камітэту; у траўні быў абраны старшынём Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны, у ліпені склаў з сябе гэтыя паўнамоцтвы. Узначальваў Камітэт Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Увосень 1919 года - дыпламатычны прадстаўнік БНР у краінах Балтыі. Пасля сесіі Рады БНР у Менску (снежань 1919 г.) прызначаны яе дзяржаўным сакратаром ва ўрадзе Ластоўскага. Выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі і на настаўніцкіх курсах. На пачатку 1921 года арыштаваны польскімі ўладамі. Пасля вызвалення (у лютым) эміграваў у Каўнас. Працаваў на дыпламатычных пасадах, браў актыўны ўдзел у грамадска-культурным жыцці беларускай эміграцыі. Пасля далучэння Летувы да СССР зняволены расейска-савецкімі ўладамі ў турму (жнівень 1940 - чэрвень 1941 г.). У жніўні 1943 года арыштаваны нямецка-фашыстоўскімі ўладамі, быў у канцлагеры. У 1944-1946 гг. - дацэнт Каўнаскага ўніверсітэту. Пасля яшчэ двойчы арыштоўваўся. Быў вызвалены ў красавіку 1955 года, працаваў у праэктным інстытуце. Пахаваны ў Каўнасе.

## 2 сакавіка

**85 гадоў** таму (1914 г.) нарадзіўся **Аляксей Бірычэўскі**, артыст тэатру, заслужаны артыст Беларусі. З 1950 года працаваў у Гарадзенскім абласным драматычным тэатры. Памёр у 1987 годзе.

## 3 сакавіка



55 гадоў таму (1944 г.) невядомымі быў забіты **Францішак Аляхновіч**, беларускі грамадскі дзеяч, драматург, актор, паэт, публіцыст. Нарадзіўся 9 сакавіка 1883 года ў Вільні. Вучыўся ў Віленскай гімназіі, хімікатэхнічнай школе, кракаўскай драматычнай школе, варшаўскай Школе музычнага таварыства. У 1908 годзе вярнуўся ў Вільню, працаваў рэпарцёрам. У 1910 годзе разам з Ігнатам Буйніцкім і Алесем Бурбісам наладзіў у Вільні першы беларускі спектакль. Выдаваў гумарыстычны часопіс «Перкунас». Некаторы час знаходзіўся ў Галіцыі, дзе граў у розных тэатрах. У 1913 годзе вярнуўся ў Вільню, дзе быў арыштаваны і засуджаны да году турмы. Выйшаўшы на волю, працаваў мулярам, пажарным, настаўнікам, наладжваў тэатральныя пастаноўкі. У 1919-20 гг. працаваў дырэктарам і галоўным рэжысёрам менскага «Беларускага тэатру». З 1920 года - зноў у Вільні. У 1926 годзе перайшоў у БССР, быў абвінавачаны у шпіянажы і высланы на 10 гадоў на Салавецкія астравы. У 1933 годзе быў абменены Польшчай на Браніслава Тарашкевіча. У Вільні займаўся публіцыстыкай, у 1942-44 гг. рэдагаваў газету «Беларускі голас». Быў забіты савецкімі ці польскімі партызанамі на ўласнай кватэры. Пахаваны на віленскіх могілках Роса.

**Падрыхтаваў Уладзімір Хільмановіч**

